КАЗІМІР
КАМЕЙША

# Сябрына

## ВЕЧНЫ АГОНЬ

Прызнаюся,
я вечнасць даганяў,
Ды строгі абеліск мяне суняў.
Паплыў угору доўгі спіс імён.
На абеліску цёзка... з-пад Расон.
І раптам — кропка...
Чыйсьці крык і боль...
У вечнасць тую не прымаюць больш.
Не, вечнасці я ўжо не дагоню,
Ды памужнею тут, каля Агню.
Яшчэ мацней адчую прагу жыць.
І той агонь па жылах прабяжыць.

## РАНІЦА

Ажывае ўсё перад вачыма
У смузе,
у сонцы,
у расе.
Над зямлёй святочнаю Айчыны
Неба яснай кронаю расце.
Глянь, блакіт якой адчайнай сілы
У той кроне,
ў кветках,
у вачах!
Толькі мне на вочы не хапіла,
Шэра ў іх, як у змяркання час.
Ды зямля здаецца мне не шэрай,
З чарнатой не блытаю блакіт.
Я іду і ў свет пахарашэлы
Выпускаю жаўранка з рукі.
Не кажы мне, дружа, што нібыта
Так, без ладу жаўранкі звіняць,
Што у яркім колеры блакіту
Месяцца і здрада і хлусня.
Не паверу ў гэта аніколі,
Ды і ты, брат, веры не давай,
Бо хлусню я ведаю на колер,
Здраду я здалёку пазнаваў.

І таму, што веру ёй, Айчыне,
І таму, што веру ёй адной,
Да людзей,
                    што з рознымі вачыма,
Я прыходзіў толькі з дабрынёй.
І не прадаваў сваё сумленне,
І не кленчыў я перад хлуснёй,
А калі і падаў на калені,
Толькі перад ягадай лясной.

* * *

*М. Маляўку*

Жывём з табой не на выгодзе,
Ніхто да славы не жадзён.
На станцыі адной выходзім,
Двума дарогамі ідзём.
За Нёман ты,
І я — за Нёман.
Ты ў свой барок,
А я — у свой.
Знаёмы твой — і мой знаёмы
На роднай сцежцы
баравой.
Шпакоўні нашы,
нашы поўні,—
Усё ў адзін замкнецца круг.
Як не хапае рук сыноўніх
Для чатырох бацькоўскіх рук.
Ледзь пераступіць дзень у вечар —
Паветра млее і дрыжджыць.
Растуць,
Шчыруюць у зарэччы
Грыбныя спорныя дажджы.
Зноў станцыя
замком-маланкай
Дарогі нашыя звядзе.

І не ад шклянкі — ад палянкі,
Мядовай баравой палянкі,
Аж кругам галава ідзе.
Матулін позірк наўздагонку
За электрычкаю бяжыць.
Цячэ няспешная гамонка
Пра лес,
          што нас прываражыў.
Ён сірацее, хоць лісцее,
Хоць пагусцеў за час які.
З лясамі разам сірацеюць
Старыя нашыя бацькі.

* * *

Што такое чаканне?
Гэта ведае толькі мама.
Што такое сустрэча?
Гэта ведае мама таксама.
І ведае толькі мама,
Што такое гора і страта.
Гэта ж тыя чатыры вуглы,
З якіх і складаецца
маміна хата.
Што ж такое шчасце людское?
Весялосць што такое?
А пра гэта ў сыноў запытайце.

* * *

Шлях віхлясты рэчкі,
Ранні ўсплёск зары...
Белы накіп грэчкі
Здзьмухвалі вятры.

Закусцелы бераг
Праз туман глядзеў.
Уставаў у белым
Белы дзень.

Паласой бярозавай,
Млечнай цеплынёй...
Суха выцер слёзы я
Белай даланёй.

Ты пакінь мне, доля,
Сёння і пасля,
Шлях па белым полі —
На радзіму шлях.

* * *

Дзень добры,
Брэст-вясноўск!
З зімы сваёй уцёк я.
У кніжцы
запісной
Радкам зацёпла.
Дыхне цяплом з ракіт —
Аж камяні ўздыхаюць.
Гарыць гранітам пліт
Святая крэпасць —
Памяць.

Як неба расцвіло
Над Мухаўцом адталым!
З зямлі штыка сцябло
У вечнасць прарастае.
Вясны гарланіць горн.
Давай руку,
мы пойдзем,
У той далёкі год,
У той вялікі подзвіг.
Агонь лізаў фарты
І камянеў,
злюцелы.

Яшчэ ўсё не астыць
Чырвонай цэгле.
Стаіць, як звон, сцяна
Для ворага заслонам.
Не з пліт уся яна,—
Уся яна з імёнаў.
Стаіць яна, жыве
Няскоранай сцяною.
Адной вясне яе
Заўсёды браць без бою.
Ужо дыміць сівец,
Лісток пупышка верціць.
Уплятае Мухавец
Каснік вясновы вербам.
Праз сіняву юнак
Павеславаў у лодцы.
Вы чуеце:
— Вясн-а-а!
Маўчаць, не чуюць хлопцы.

## БАЛАДА ПРА КОМПАС

> У музеі Рэвалюцыі ў Маскве захоўваецца компас Матэ Залкі...

Ён не просты, гэты компас,
Што ў музеі спачывае.
Паглядзі —
варушыць корпус
Стрэлка хісткая, жывая.
Матэ Залка, Матэ Залка...
Пахнуць словы вінаградам.
На Амуры перапалка,
Перакопа кананада...
А ляцяць нястрымна
мроі
Праз шалёны віск снарадны
На Дунай, дзе за смугою
Край венгерскі, вінаградны.
Ды павёў ты, компас верны,
Не ў спачынак,
не дадому,—
Б'ецца, б'ецца
сэрца венгра
На іспанскіх дымных стромах,
Камандзір інтэрбрыгады
На зямлі, як гнеў, гарачай,
Дзе гаротная Гранада
Захліпаецца ад плачу.

...На хвіліну змоўклі стрэлы,
І не чутна генерала.
Як працяг стамлёнай
стрэлкі —
Цень жалобна
лёг на скалы.
Стрэлка
вастрыём
хіснула:
«Камарадас, помсці. Помсці!..»
Сцёк у кніжку запісную,
Сцёк крывёй
радок апошні.
І радка таго хапіла,
Каб суцішыць кананаду.
Нібы сцяг свой, падхапіла
Гэты кліч інтэрбрыгада.
І ўзняліся, вал за валам,
Хоць свінец смяротна шкваліў.
Лёс і смерць іх генерала
Верным азімутам сталі.

. . . . . . . . . . . .

Не прыдумваюць балады,
Іх жыццё праўдзіва піша.
Выйшаў компас з кананады
І жыве, акуты цішай.

* * *

Здаём гады,
як гарады,
Здаём гады без бою.
Глядзіш, аж трыццаць
тры гады
Пакінуў за сабою.
Усё пакінута:
стагі,
Асенні лес
і хмары.
І нехта там ужо другі
Шчасліва гаспадарыць.
Вісіць, як меч Дамоклаў той,
Пытанне над табою:
А дзе ж ён, бой,
А дзе ж ён, бой,
Ці ўсё здасі без бою?

* * *

Аднаму не навучыўся —
Танцаваць.
Колькі раз аб тым прыйшлося
Шкадаваць.
А калі цябе пабачыў,
Дык адразу ў круг павёў.
Зразумеў,
            што гэта — шчасце...
                                    і маё.
І кружу з таго я часу,
І кружу,
Усё вакол цябе адной
Кругі ваджу.
Разышоўся і замкнуўся
Гэты круг.
Не канчаўся б толькі танец
Сэрцаў двух
Аніколі!

2 Зак. 1442

## ПАДВОДНІК

Пакуль дагарае акурак
На прыбярэжнай жарстве,
Атамная акула
Цянёты зялёныя рве.
Здаецца, вось толькі курылі,
Душа перад спускам жадна.
Крыламі кажана
Насоўваўся вечар з Курылаў.
Пад лістападам,
пад небам,
Пад тоўшчаю воднаю,
пад...
У рыфах руіністых недзе
Ты, беражанін, прапаў.
Дыханне тваё вывяржэннем
Імкнецца насустрач дню.
Не страшнае пагружэнне
З паверхні,
туды, ўглыбіню.
А страшна — назад не павернеш.
(Слабенькіх не бараніl)
Вам, хто ўвесь век на паверхні,
Не зразумець глыбіні.
Там немагчымае зможацца,

Ты не хвалюйся, радня.
Адно на адно памножацца —
Рызыка і глыбіня.
Там вернасць, як сувязь,
прамая,
Не дасць яна ў крыўду і зман,
Пакуль цябе абдымае
Блакітным крылом акіян.

## ВУЛІЦЫ ВІЛЬНЮСА

Мудрасць муроў задуменная,
хмурая,
Водар пагоркаў
кменна-камінны.
Можна у вечнасць
І можна ў мінулае
Глянуць з чырвонай гары
Гедыміна.
Бачыш, як дождж вераснёвы,
гусцеючы,
Дыні сівых купалоў апалосквае.
...Шабельны позірк вачэй
Каліноўскага,
Крокі па вулцы Івана Луцэвіча...
Бачыш, над памяццю
над чалавечаю
Глуха сашчэплены рукі
скляпенняў.
...Вокны ўглядаюцца позіркам
вечавым,
Стыне ўчарнелы сланечнік каменняў.
Помніць усё гэта памяць
каменная.

Што яна кажа? Паслухай,
турысце! —
Тыя заломы
Многакаленныя —
У сэрца гісторыі нашанскай
выйсце.
Чуеш, грыміць (і не змоўкне ніколі),
Сэрца грымотна праз брук
прарастае.
У світцы сялянскай
нашая Доля
Шаблі і вісельні ўбок адмятае.
Глуха над памяццю вішча
свінчатка,
Шрамы на небе гараць агнявыя.
Мы яшчэ там,
на далёкім пачатку,—
Тыя ж нязломныя і жывыя.
Мы яшчэ там,
на далёкім пачатку,
Крылы выкройваем
слову і славе,
Справе сябе аддаём да астатку.
Чуеце? Справе!
Мы яшчэ там,
дзе бяда і галеча,
Кажам рашуча:
— Даволі!
Волю гартуем табе,
чалавеча.

Чуеце? Волю!
Хто там, сівенькі, брыдзе і
пакульгвае
Шляхам, дзе век рэактыўны
шпарыць?
Хто там стагоддзе намацвае кульбаю?
Памяць!..

## МУЗЕЙ ЧАРЦЕЙ У КАЎНАСЕ

Трапілі ў чортавы петлі.
Не уцячэш, каб хацеў.
Ціха! Мы з вамі не ў пекле —
У каралеўстве чарцей.

У люльку рагацік той згорнецца,
Дрэву зачэпацца ў чос.
Кім толькі чорт не прытворыцца,
Ведама, чорт.

Звыкся да нор і да нараў,
Ціснецца ў цішу і шум
І забіраецца нават
Да чалавека ў душу.

Чорны, як галавешка,
Воч ашалелых бялкі.
На паўсцяны усмешка,
Рогі тырчаць, як сукі.

Сцены трасуцца — рагоча.
Лупіць па бэльцы хвастом.
Хто з вас пацешыцца хоча,
Хай і пацешыцца той.

Вунь патануў у бутэльцы,
Кульбу другі асядлаў.
А гэты зычлівым здаецца,
Просіць усіх да стала.

Колькі вясёлых, нягордых,
Проста, душа у душу.
Хто абражае там: «Морды»? —
«Твары»,— папраўіць прашу.

Позна ужо. Надвячорак.
Не астывае парог.
Ідзіце, пацешцеся з чорта.
Бог вас пацешыць не змог.

## ДА ЧУРЛЕНІСА

Вас, што прыйшлі з дарог і крам,
Прашу:
— Цішэй, не грукаць.
Ідзіце асцярожна ў храм
Ягоных фарб і гукаў.

Дзе цішыня, як брук, ляжыць
І неба у трымценні,
Дзе жэмайційскія крыжы
Кладуць на шлях тры цені;

Дзе з воч праменняў б'юць снапы
І струнамі іграюць,
Дзе ў слуп перарастае пыл
І сонечна згарае.

З агню, паветра і крыві
Тут месіва булькоча.
Чаго і мары не злавіць,
Змаглі падгледзець вочы.

Пад столлю маладых аблок
З душою не звалодаць.
Тут з фарбаў вырастае зрок
І дабрыня — з мелодый.

Твар вечнасці глядзіць з акна —
Зямлі і неба злітак.
І фарбы з гукамі — адна
Да вечнасці малітва.

## ВЕЧАР

*М. Стральцову*

Ты суцішся —
                    і пачуеш,
Як гучыць уся прастора.
Як чаўноў ступаюць чуні
Па дняпроўскім калідоры.

Недзе конь хрумсціць травою,
Аж расце па цемры грыва.
Паласою яравою
Мчыцца сцежка палахліва.

І чуваць —
              наноч паволі
Расслабляе бор карэнні,
Ад сяла паўзуць у поле,
Ад святла ўцякаюць цені.

Як кадык,
              струмень крынічны
Ходзіць,
           аж варушыць камень.
Голас вёдраў сімфанічны
У зарэччы не змаўкае.

Сцішце гоман недаверчы,
Сцішце музыку чужую,
Дайце мне паслухаць вечар,
Больш які ўжо не пачую.

* * *

I зноў распаліў
меданосны мой груд
Чмялёў залатое вуголле.
I кветкі, і травы
заходзяцца тут
Ад спеўнай і сонечнай волі.

Мы ў хуткасцях веку, яго віражах,
Мы прагнем зямное пяшчоты.
А ў купіне, глянь,
першабытна ляжаць
Мядовай мазаікай соты.

Прыжыўся ля кветак,
ці рос я тут сам,
Спяваю у сіняй выгодзе.
Ды шастае ў кветках
знішчальна
каса —
I сумная песня выходзіць...

## БАЦЬКАВЫ ЛІСТЫ

Жаўцеюць яны таксама,
Памяці нашай лісты.
Скроні твае пакрамсала
Маланка пражылак густых.
Час грукацеў навальнічна —
Удар і яшчэ удар.
Свечкаю белай грамнічнай
Свяціўся славянкі твар.
Мама,
          я помню балюча
Трывогі тваёй акно,
У цёмнач,
                    у ельнік калючы
Глядзела штоночы яно.
З дзён выпалі самі нядзелі,
Сціскала самоты вязьмо.
Ды чым жа яно не надзея —
Салдата скупое пісьмо?!
І раптам, як лівень вясенні,
Нахлынула: «Родны ты мой!..»
Ну, чым жа яно не вяселле —
Вярнуўся, не зжаты вайной!
Скакала, і біла талеркі,
І трэсла за плечы:
                              «Жывы!»

І горкі прыпас тылавы
У шклянках свяціўся без меркі.
Жаўцеюць яны таксама,
Памяці нашай лісты.
Зямля прад табою, мама,
Ляжыць, як лісток залаты.
Часамі,
        бываючы дома,
Дастану з шуфляды лісты.
У іх —
        і чаканне,
                і стома,
І выбухаў рыжых кусты,
І ўзятыя з бою пагоркі,
І болю нямога пячаць.

. . . . . . . . . . .

Слязін тваіх ціхія зоркі
Між літар трывожна гараць.

## НЯДЗЕЛЬНАЕ

У садку,
　　　　У гушчы голля
Дзень нядзельны халадкуе.
Тытунёвы дым
　　　　　　і гоман,
Толькі музыкі бракуе.
Барадач гады гартае
І перагартаць не можа,
Толькі хлопцы уздыхаюць,
Толькі думы растрывожыў.
Дзень ступае па сцяжынцы,
Кроны сціхлыя вярэдзіць.
На плячо рука лажыцца:
— А забудзь ты ўсё,
　　　　　　　　суседзе!
Ды вазьмі ты, брат,
　　　　　　　　цымбалы
Ды зайграй такое штосьці,
Каб слязінку выціскала
У гарэзнай маладосці.
І нясуць яму цымбалы,
І гудуць яны стозвонна.
«Дзе ж ты ночку начавала,
Мая мілая князёўна?..»

Знекуль выплыве хусцінка,
Пад цымбальны звон заскача.
А слязінка?
Дзе ж слязінка?
...Барадач пяе і плача.

3 Зак. 1442

* * *

Павеяла раннім,
здаровым
Ад сцежак,
і крон,
і карэнняў.
Як птушка,
сягоння дуброва
У веснім сваім апярэнні.
Вось зараз яна страпянецца,
І чуб аж да сонейка ўскіне,
І кожнае кветцы сагрэцца
Аддасць па праменнай
пярыне.
Вось зараз яна заспявае
Разлівіста,
ясна
і прагна,
І далеч уся палявая
Гармонік разораў расцягне.
Сцяблінку ў руках ты камечыш,
Усміхаешся нечаму суха.
Дамоў не спяшай, чалавеча,—
Чаму б гэты спеў не паслухаць?!

* * *

Дзень распагодзеў.
Лёгка і лётна.
Млеўна узлесак
Крыламі лопнуў.
Аж затрымцела
У пыле шаўковым
Гэта,
    залітая сонцам,
Дуброва.
Крочыць па суччы,
Нібы па сходках,
Летняе сонца
З вясновай паходкай.
Пойдзем углыб,
Дзе аркестрык птушыны
Грае каханню
Шчаслівыя гімны.
Пойдзем...
Святло аж шалее на галах.
Ты ж мне сама
Гэты цуд абяцала.

* * *

Я зноў жыву у лесавым закутку,
Дзе вербы азярко бяруць у круг,
Дзе круціць восень з лісцяў самакрутку,
Дзе разам з ёй і я куру.
Спрачаюся з нудой і дактарамі,
На добры год раблюся маладзей,
Калі дымар,
                    прастуджаны вятрамі,
Бярозавую песню завядзе.

## ВЯСНОВАЕ

Стань ля світальнага акна
У калідоры інтэрнацкім.
Хай першым подыхам вясна
Цябе спалохае знянацку.
Ты пакуры, ты не бяжы,
Каб пераняць бліщчасты боцік.
Хай лёд няўдачы
капяжы
Ля вокан весне раскалоцяць.
І хай буслінае крыло
Аблокі бела распагодзіць,
І ўсё, што некалі сышло,
Той самай сцежкаю прыходзіць.
Зайграе сонейка — выходзь,
Ідзі, да твараў прыглядайся.
Спыніся мары насупроць,
Што засталася ў школьным класе.
Пральецца неба за каўнер,
І ўсё ўлагодзіцца,
адтае.
Павер'ю вернаму павер —
Вясна
ўсё стратнае
вяртае.

## АДЛЁТ

Аршынам крылаў вымерана далеч,
Аблокі развяслованы наўсцяж.
І ўсё гучней над лесам,
над садамі
Зямной рознагалосіцы кірмаш.

Адлёт ізноў.
Скажы, за што якое
Любоў ад глебы трэба адрываць?
Я сэрца тым, напэўна,
супакою,
Што буду ў двор твой сэрцам веславаць.

Я птушкам аніколі не зайздросціў
За лёс узбунтаваны міжзямны.
Не два крылы прасіў я ў маладосці,
А тыя два з каханаю акны.

З якіх відаць далёка і высока,
У якіх змясціўся б, пэўна,
цэлы свет.
І вось лячу,
гайдаюцца аблокі,
І тыя вокны гаснуць неўпрыкмет.

Чыя віна?
Цябе я пакідаю,
Гудуць вінты аб нечым, аб былым.
На два крылы раздзеленая далеч...
І цісне сум зямны на два крылы.

* * *

Ах, свавольніца дзяўчына,
Песню ты адну пяеш:
«Пакалолі успаміны
Ножкі белыя мае...»
А пра што ж тыя ўспаміны?
Пра лужок,
                    пра арабіны.
Ды запела ты пра Янку,
Што спыніўся ля ракі,
І заззялі ярка-ярка
Вачанятак абадкі.
«Не адходзь, а то спапеляць»,—
Мне гаворыць бляск вачэй.
Вусны ж толькі яшчэ спеюць,
Будуць вочак гарачэй.
Смутак з сінімі вачыма
Йдзе за ёю па расе.
А чаму пяе дзяўчына?
Каб заслухаліся ўсе.

* * *

З табою вярнуліся ночы бяссонныя,
Вярнулася тое,
што некалі страчана.
І ў сэрца,
дзе золкасць шчымела заўсёдная,
Гальфстрымна ўліліся
струмені гарачыя.
Было нам салодка,
аж немагчыма
Пад скальнымі крыламі
гордага Крыма.
Пакуль тыя зоры
журылі аблокі,
Занесла нас мора далёка-далёка.
Я думаў, пайсці б нам праз дні
і праз ночы,
Пайсці б нам з табою сцяжынкай адною,
Ісці б і не збочваць ніколі-ніколі,
Ды голас здалёку пачуўся:
— Даволі!

* * *

Ці ўчую твае крокі за парогам?
Выстукваю іх сэрцам усю ноч.
Адна ты ў гэтым свеце,
Больш — нікога.
Адна, адна...
Таму й прашу:
— Прыкроч!..

Марудна да мяне прыходзіць ранне.
Чаканне...
У яго я — вечны раб.
Калі б ты ведала пра гэтае чаканне,
Прыйшла б ты, добра ведаю,
Прыйшла б.

* * *

Заўважыў калега:

«Старэюць бацькі,

А ў цэлым жыццё маладое...»

Сягоння ішоў у свае Навікі

І глянуў у дворык удовін:

Агнём на акне зацвітае вазон.

У печы агонь весяліцца,

І домік увесь,

як скрыпучы вазок,

Кудысьці у памяць імчыцца.

Гляджу: а яшчэ маладая,

адна...

Пабегчы б на танцы ў Зарэчча,

Ды тут яе танцы.

Ля печы

Жыццё ўсё танцуе яна.

Чалеснікі звыкла гудуць і гудуць,

І грукаюць мужавы боты.

Падумаў, а што, як у хату зайду,

Разбаўлю яе адзіноту?

За стол усадзіла, як сына, мяне,

Забегала,

чаркі шукала,

Як быццам нікога не мела радней,

Як быццам мяне і чакала.
Сказаў «маладзееце» ёй незнарок,
Прамовіў, і сорамна стала.
— Ага, маладзею... а як жа, сынок,
Ад думкі, што блізкая старасць.

## ГРЫБНАЯ БАЛАДА

*Памяці А. Залеўскага*

Як два тыдні на нашай зямлі
Ды спраўлялі дажджы вечарынкі.
На палянах грыбы вечарыніць пайшлі.
Эх, часіна-часінка!

Неруш сам так і просіцца ў кош.
Аж баліць гэта золь баравая.
Крок шчаслівы ды сумны
ў сяброў-грыбнікоў —
Аднаго грыбніка сярод нас не хапае.

А здаецца, ён тут,
на паляне нямой,
Заглядзеўся уверх,
дзе аблочацца кроны.
Штосьці піша, глядзі,
цыгарэтны дымок.
Ці не нашы імёны?

Ад раздолля аж кружыцца галава,
Як дзіця,
ён смяецца і чыста, і звонка.
З акуляраў праменьчыкі выбеглі два
І пабеглі жыццю наўздагонку.

Бег за імі і сам ён, сляпы чалавек,
І прапаў,
толькі ахнула ціш баравая.
Заплывае сонца
за гурбы
павек,
Баравік
з імхоў
выплывае.

## ЗДЫМАК

Гарачынь была паўдзённая.
Смак парэчак зубаломкі,
І рачулка
               санцадонная
Каля верб віхляла плоткай.
І зялёнай ніткай конік
Краўцаваў стракотна цішу,
Нават кусцік,
                    лісцік кожны
Дзюбкай несірочай ціўкаў.
Па ствалах збягала голле,
Цень спяшаўся распрануцца.
І трава паўзла угору,
Каб да дзягі дацягнуцца.
Быў там наш дзівак фатограф,
Як той конік, завіхаўся...
Як было ўсяго там многа —
Толькі звар адзін застаўся.

* * *

Нібы век такое вырак.
Сірацее дом і сад.
Адляцеў вясковы вырай,
Не вяртаецца назад.
Ці было цяпла замала,
Ці была нядобрай ціш?
Вішня рукі заламала,
За табой услед ляціць.
А бывала, ўсё хваліўся:
«Дома я закараніўся».
Дарагі, ты памыліўся,
Ўзяў не корань, а крыло.
Па бяссонню,
　　　　　　па адлізе
Мчаў у горад напралом.
Сэрца, кажаш ты,— не камень.
А прывык да камяніц.
Выйсця карані шукаюць,
Рвуць каменне карані.

* * *

Калі за акном мільганула
Зялёная фура вясны,
Напоўніўся песняй і гулам
Паўстанак знаёмы, лясны.

Я думаў, падвёў мяне слых,
А глянуў з плацкартнага: горад!
І новае далечы холад
Ударыў па скронях маіх.

* * *

Вечар...
Сінеча...
Ты не адзін.
Рог свой аб шыбу зламаў маладзік.
Пушча ў завоінах рэха пасе.
Боцік дзявочы плыве па расе.
Кветкавы чад...
Слюдзянее трава...
Сам я за боцікам павеславаў.
Ціха спытаўся:
— Не страшна адной?
— Я не адна.
Вы і вечар са мной.
Доўга ішлі мы праз гай малады,
Зноў у свае патраплялі сляды.
Ўсё зразумела:
я заблудзіў.
Трэба ж,
свой рог паламаў
маладзік.
Цёмна было,
не заўважыў, калі
Рукі твае у мае заплылі.
Дыхала ў грудзі, шаптала ў ціхве:

— Будзь ты маім,
дарагі чалавек.
Вечна працягнецца наша вясна.
Будзе зайздроснікаў многа у нас.

Хай жа так будзе,—
сказала яна,—
Хай жа нас кружыць аж да відна
Толькі сцяжыначка,
толькі адна.

* * *

Выраклася жонка
Ды і дзеці.
Заржавела коска пад павеццю.
Ты стаіш адзін сярод двара,
Сумны,
        як калодзеж без вядра.

## АДРАС ПЕСНІ

*Міхасю Калачынскаму*

Не здалёк прыйшла ты, песня:
Стуль, дзе бор заверасеў,
Стуль, дзе кветкі
кожны песцік
Песцяць ранкам у расе.
Дзе ў лугі нясе пяшчоту
Сеўны дождж-капяжун,
Дзе буслы прыносяць шчодра
Звабнавокіх прыгажунь.
Дзе гамонна вечарамі
Ад вяселляў, пагасцін...
Як жа ў тым багатым краі
Добрым песням не расці?!
Песню звонкую за сонцам
Па шляхах юнак панёс.
І з нітоў шляхоў бясконцых
Чалавека ткаўся лёс.
Скажа часам: «Пастарэлі...»
Ды не згодзяцца сябры.
Дзьмуць па скронях засівелых
Цёплавеснія вятры.
Песні гэты свет не вузкі,
І такі ўжо лёс яе:
Нараджаецца на вуснах,
У сэрцах праз вякі жыве.

## ВЯСНА

І так яна дыхнула,
І так пайшла гуляць,
Аж глухне скрозь ад гулу
Старэнькая зямля.

Азоніста сасонцы,
З бярозы сок бяжыць.
Ідзе на свята сонца
Пушчанскі старажыл.

Ідзе, аж глянуць люба,
І рэха ўслед ляціць
За посахам,
за люлькай,
Што молада дыміць.

Каля блакітных плёсаў —
Сады, бы ў малацэ.
Убачыў дзед,
што посах
Цвіце ў яго руцэ.

* * *

На малііннік малілася пушча,
За кустоўе хаваліся цені,
Неба нізка зусім,
Каля самага цемя.
І збывалася ўсё,
калі вочы заплюшчыць,
І ўсё падуладна было даверу.
Дзіўны сон,
Звабны сон маладосці.
Спакушаў той малііннік
без меры,
Спакушаўся ў ім хтосьці.
А як вочы адплюшчыў, усюды —
Цені, цені —
Ад воч і да вуснаў.
Я да смерці, відаць,
не забуду,
Як адзін з іх галінкаю хруснуў.
Скрозь — спалох...
Як змясцілі яго толькі вочы?
І малііннік —
схілёныя гроны,
І кульнуўся ў траву
твой ружовы збаночак,

І пасыпаўся сорам.
Чырвоны-чырвоны.
Недзе спеюць і сёння
мае маліны,
Недзе лета звініць медагонна.
Ходзяць, ходзяць цені
Нагамі маімі
І мяне аніяк не дагоняць.

* * *

Зялёна распагоджаны
ялоўнік...
Турыст —
мой госць —
пытаецца,
Заглядвае у слоўнік.
А там і слоў такіх няма,
як «Налібокі».
Не значыцца і час,
ужо далёкі...
Ідзём,
маўчым...
Пачуе слова —
разумнее, бачу.
Тут пушча —
наш адзіны перакладчык.
Гудуць бары ў яловыя бароды,
Гудзе адвечны рухавік прыроды.
Бярэзнікі пускаюцца
у скокі,
І сосны прарастаюць праз аблокі.
Самкнула кроны нетра невідушча.
Ішлі на пушчу —
засталіся ў пушчы.

Вунь тамака,
                    на далані паляны,
Грудок адзін зямлі заваяванай —
Магіла, пад крушыннікам, направа...
Расказвай, пушча, смела: гэта праўда.

## ЯЛТА. ДЭГУСТАЦЫЯ ВІН

Пагодны Крым.
Ад сонца сам ён
Па-негрыцянску учарнеў.
Дарамі віннымі Масандры
З дарогі ён спаткаў мяне.
Віно гатунку залатога
І моцы залатой зямлі,
Узросту больш чым векавога
Ашчадна ў келіхі лілі.
Струменьчык усміхаўся гронцы
На вінаграднай паласе.
— Ну што ж, напэўна,
вып'ем сонца,—
Вясёла падміргнуў сусед.
«In vino veritas» [1] — прыпомніў.
Не тут я ісціну знайшоў.
Але скакалі ў днішчах промні,
Плыў залацісты веташок.
Глытком спаважлівым мінчанка
З кілішка роўна адпіла —
І вочы колеру світанку
Заірдзянелі ад святла.

---

[1] In vino veritas — ісціна ў віне *(лацінск.)*.

Ужо цямнее неўпрыкметку,
А ў зале сонечна яшчэ.
З-за аблачынкі этыкеткі
Цячэ, праменнае,
цячэ.
Яно гарэла, бушавала,
І дніпча гойдала, як гаць.
Яно ў падвалах начавала,
Каб потым зноўку бунтаваць.

## ВЯСЕЛЛЕ

Зноў у двор прыйшло вяселле,
Ажно ў трэшчынах асфальт.
«Ах вы, сені, мае сені»,—
Палыселы цягне сват.
Ручніка сняжок сарочы
У сукнёвым кветніку.
«Каму сонца,
                    каму сонца,
А мне б толькі ветрыку».
Дзікі шал электраструнны,
Сонца скача, як глячок.
«Самі мы гняздо змайструем,
З роднай хаты уцячом».
Не уседзіш, не устоіш,
Двор ускружан, як віхор.
Дык хадзем і мы з табою
У вясельны гэты двор.
Выйдзем мы не весяліцца,
Выйдзем мы пасумаваць,
Да кагосьці прыхіліцца
І сваё падсумаваць.
Роўна скачуць чаравічкі,
Па асфальце «чах» ды «чах».
Дочкі нашы, як лісічкі,

Вырастаюць на вачах.
Не ўзляціць ручнік той сватаў,
Нашых дочак не памчыць,
Самі рвуцца, птушаняты,
З гнёзд бацькоўскіх уцячы.
Вунь, глядзі, як лёгка скачуць
На касічках каснікі.
Ну, даруй мне, што ж ты плачаш,
Вытры плач свой са шчакі.
Хай самота свет не засціць,
Хай гуляе маладосць.
Пра сваё не думай шчасце
І чужому не зайздросць.

* * *

Дзве маленькіх сястрычкі мае,
Дзве вялікія страты.
З салаўінай калыскі тае
Уцяклі пад магільныя шаты.
Свеціць сонейка нам, сынам,
Ну, а ваша зайшло пад карэнні.
Вы ці чуеце: зноў вясна
Шпацыруе па загуменні.
Вы ці чуеце: ў далавах
Крокі жвірыста зарыпелі.
Толькі штó я пра крокі вам —
Вы і кроку ступіць не паспелі.
Многа ў краі маім зязюль,
І, здаецца ж, усе не скупыя.
Днём тым сэрцы знямелі матуль,
Усе зязюлі былі нямыя.
Адшумела вятрамі,
Дажджамі сплыло
Столькі дзён,
столькі ночак.
Вашых вочак,
што згаслі навечна,
святло
Хай гарыць у вачах маіх дочак.

## ЯК ТАДЫ...

Сустрэнемся гады ў рады,
Крычу яшчэ здалёк:
— Ну, справы як,
скажы, браток?
Жартуе:
— Як тады...
А як з каханаю, скажы,
Не маеш [redacted] ёй бяды?
— Жывём, жывём,
бо трэба жыць,
Ну, словам, як тады...
— Дзяўчаты...
(Помніш, за сялом
Той голас малады?)
Ад іх адбою не было.
— Дык то ж было тады...
Сядзім, гамонку распачнём,
Закурым — смачны дым.
Усё пра час, пра родны дом
Гамонім, як тады.
Кажу:
— Гады не йдуць — бягуць,
А ты ўсё малады.
— І чарку, брат, узяць магу,—

Смяецца,— як тады...
Яшчэ ты вось што адкажы:
Жывём і я і ты,
А як далей, брат, будзем жыць?
— Не горш, брат, як тады...

## ПРОЧКІ

Пайшоў,
за сялом азірнуўся,
А следам не выбег ніхто.
І вецер плакучы у скрусе
Зашпільваў на ім палітон.
Нібы аднаго яго толькі
Той вецер-дабрак разумеў.
Дымку цыгарэтныя столкі
Змяіліся па рукаве.
Спыніўся яшчэ за грудкамі,
Заплакаць хацеў, ды стрываў.
Як быццам сваімі рукамі
Ад сэрца ён штось адрываў.
А мог бы ён стаць на калені
Прад жонкай, прад сынам сваім.
Глухая сцяна адчужэння
Турэмна устала за ім.
Нічога, падумаў,
прывыкну,
Забудзецца,
пойдзе на лад.
А хай бы хто выйшаў,
аклікнуў —
Без памяці бег бы назад.



Жывеш у тым, у свеце чарамшыным,
Надзеі безнадзейная бязмеж.
Ды сноў маіх ніколі не мінеш,—
То ластаўкаю стукнешся у шыбу,
То бэзавай галінкай расцвіцеш;

То ручаёвым срэбрам разліешся
Ля плечукоў расквечаных Карпат,
То ападзеш у сны, як вадаспад,
Струменямі адчайна засмяешся.

Цярпенне і чаканне — лёс не горшы,
На строме я, абветраны, стаю.
Дарэмна я лаўлю цябе ў прыгоршчы.
У цясніне нават цесна ручаю.

Не ўцешылі ні думы, ні развага.
На вуснах ледзянее страты крык.
Скрыгоча дум маіх
цяжкая калымага,
Спускаецца з гары.

* * *

Двое шыгалле грабуць
На подсціл кароўцы:
Лезе баравік — не спудзь! —
У рудой каронцы.
Граблі кінулі убок,
Шышку адхінулі.
Вочы ў вочы
незнарок
Смела зазірнулі.
Ціша...
Вусны...
Ветрык знік...
Стукне дзяцел зрэдку...
Не пужай іх, баравік,—
Ты адзін за сведку.

## ВЕЧАРЫНКА

Прабеглі б па саломінцы —
У ног зайздросны спрыт!
Няма чаго саромецца —
Масніцы рып ды рып.
Ногі — ўпрысядкі, рукі — ў бокі,
Эх, скачы да відна!
Ты на ўсе Налібокі
Такая адна.
Зялёных воч затокі,
А вусны, як прыпой:
З агню ў дзяўчыны шчокі,
З мяцеліцы — прыпол.
Эх, рэжце сербіянку,
Пад пяткі аганьку!..
Вясёлкі і маланкі
У адным жывым клубку.
«...Сербіянка, мая мамка,
Дзе ты валачылася?
— Я у полі, на купіне,
Танцаваць вучылася...»
Стамлёна пад падэшвамі
Масніцы рыпяць.
Зухі ўсе тутэйшыя
Разгублена стаяць.

«...Не хадзі ты па лаўжох,
Бо змяя уджаліць.
Не заві мяне чужой,
Бо я не чужая...»
Аж горача субоце
Ад радасці тае,
Пакуль варожыць боцік,
Варожыць і пяе.
...Сцяжынкай аржаною
Значон дзявочы след.
Дымяць,
брыдуць за ёю
Сем сумных цыгарэт.
І зябка шыбе ў раме,
І зорам, і траве.
...Пасля крамяны ранак
Са шчок яе ўсплыве.

## ДЫМ АЙЧЫНЫ

У ампары́,
                    за леснічоўкай,
У сосен каля самых ног,
Дыміўся корч з аблiччам чорта,
Дыміўся дзень,
                    дыміўся ноч.
У тры пагібелі сагнуўся,
Як быццам выпаўзаў з нары.
І дым вяроўкаю цягнуўся
І раствараўся ў ампары.
Вуглём пазлядваў па-сірочы
І сыпаў іскры па зямлі.
Тутэйшы пастушок аднойчы
Той корч смаловы падпаліў,
Я уцякаў уранку з дому,
А вечарам — ізноў туды.
Найдаражэй за ўсё малому
Быў ён, той дым,
                    маленства дым.
Ён быў гаркавы і цягучы,
Сляза́іла нават ад яго.
Што ён салодкі і гаючы,
Я зразумеў праз многа год.

## ЗАБЫТАЯ СЦЕЖКА

Па сцежцы той,
што ты ішоў калісьці,
Ідзе трава,
хістаючы вятры.
Гудзе пчала у кветкавай калысцы,
Гудуць камлі чмяліна у бары.
Як гэты дзень цвіце і адцвітае,
Ці лёгка зацвітаць і адцвітаць,
Мінулае цябе не запытае,
А будучыня можа запытаць.

# ДОКТАР ПУШЧА

*С. І. Вількоцкаму*

Сёння самы вялікі дзень.
Гэтай моцы хай сонца не згубіць.
Адчуваеш сябе маладзей,
Чалавек-жыццялюбец.
Ты пушчанскай сцяжынкай ідзеш,
Расхінаеш рукамі галіны.
Сёння самы вялікі дзень.
У бальшак пераходзяць сцяжыны.
І бяжыць той бальшак напрасткі.
Разбягаюцца у бакі,
Расступаюцца змораны сосны
І чапляюцца за вякі
І за нашыя вёсны.
Сёння самы вялікі дзень,
Ты і сам сёння самы вялікі.
Толькі памяць чыгункай гудзе,
Высякаючы іскры на стыках.
Дзяцел лечыць старую сасну,
А сасна, як і памяць,
сівая.
Ціха, дзяцел,—
ты слой закрануў,
Дзе вайна столькі год спачывае.
Гэта нават скрушней ад скрух,

Гэта нават страшней ад гневу,
Калі зводзіць блакада круг
Да кружочка слаістага дрэва.
І сціскаецца сэрца ў грудзях
І ў ствалах — сэрцавіна.
Ну й хада, браце мой,
што ні шлях —
Толькі думкі адны і ўспаміны.
Ты дарэмна напружваеш слых,
Затаілася ціша, як міна.
Нават крокаў не чутна тваіх —
Крочаць думкі адны ды ўспаміны.

За чыгуначным палатном
Пахне горычна палыном
І далёкай апошняй вайной.
За чыгуначным палатном
Узрываецца памяць зноў.
Так палілі, хвасталі яе,
Страшна ведаць такое і бачыць.
А яна вунь спявае,
жыве
У лагодзе сваёй немаўлячай.
Палягчэла, здаецца, зямлі,
На лаўжах і снарадных і мінных
Кветкі выбухаў узраслі,
Кветкі выбухаў мірных.
Людзі, кінем і зайздрасць і гнеў,
Сціснем рукі на дружбу навекі.
Каб ніхто з вас вайной не хварэў,

Вы вучыцеся ў траў і дрэў
І для хворых вышуквайце лекі.

* * *

Я ў аптэку-пушчанку іду.
Коле ў сэрца,
валтузіць асколак.
Хай жа здыме і боль і жуду
Варажба тваіх зёлак.
З Рубяжэвіч аптэкар я.
Гэта пушча — аптэка мая.
Вунь гады мае крочаць
з мяшком
Ды з пушчанскім
крывым пасашком.
Родны травень.
Буянне траў
Па травінцы ля сцежкі збіраю.
Кружыць бор павучынны вятрак,
Сонца ў кронах згарае.
Каля самага бальшака
Я малога спаткаў пастушка.
Ён здзіўлёна павёў брывом,
Выцер нос рукавом.
— Што шукаеце, дзядзька? — пытае.—
Грыбасею яшчэ не было,
Ягад мала зусім нарасло,
Вось трава толькі ў пояс,
густая.

— А траву я, сынок, і збіраю.
Змераў знізу даверху:
«Дзівак,
Ну, дзівак, больш не скажаш нічога».
Я прыгледзеўся:
сонца высока яшчэ,
Хай яно пастушку яшчэ доўга пасвеціць.
Па гадах і ўспамінах сячэ
Разгайданае вецце.

* * *

«Добры дзень, Станіслаў Іванавіч! Вы, напэўна, мяне не памятаеце, паколькі Вам многія пішуць, але я Вас не забыў і ніколі не забуду. Прышліце, калі ёсць магчымасць, яшчэ пасылачку з травамі...»

А. Антонаў, Запарожжа.

*З пісьма*

Дома зноўку паштовы касяк
Цепліць сэрца і вочы.
Развażае і гэтак і так
І не спіць ён уночы.
Ці ён так сярод пушчы блукаў,
Ці збіраў разам з травамі гукі?
Ці гады ён чыесьці шукаў
І вяртаў тую страшную згубу?..
Ці ён траў змарнаваў цэлы стог,

Ці ён боль перамог сардэчны,
Ці ён вечнасці дапамог,
Сам на гэтай зямлі нявечны?

* * *

Тую ноч падпаліў пажар.
Сон яго страпянуўся пажарам.
Сон усіх скалануў рубяжан,
Беглі з вёдрамі рубяжане.
Ён рвануўся у самы агонь,
Ён не чуў і не бачыў нічога.
І на белай кашулі яго
Біўся вогненны цень трывогі.
Ноч задыхала гарачэй.
«Эх, і дрэнь мае справы.
Травы, травы ратуйце хутчэй!»
Дагаралі бязголасна травы.

## ВЕРАС ЦВІЦЕ

Ветрыкам бор разгайданы.
Ціха,
як перад сном.
Зноў ахапіла
паляны
Ружовым,
балючым агнём.
Слухае,
кроны схіляе
Бор
да гарачай зямлі.
Па вугальку
раздзімаюць,
Кружацца ў росах чмялі...
Кружыць,
сыходзіць з арбіты,
Падае,
падае ліст.
Край мой,
блакітам заліты,
Чысценькі,
чыст!
Можа, і сам я з арбіты

Сыду,
упаду сярод дрэў.
У верасовым
агні тым,
Можа, і мне дагарэць?..

* * *

Адыдзе і вернецца ўсё
З вясноваю песняй красён:
І пеўневы бой у двары,
І першых праталін вугры.
Туды, дзе не дойдзе і верш,
Дзяцінства на крызе сплыве.

...Спыніся, ўспамін падымі.
Твой поўдзень у кронах шуміць.
Прытомленым пехацінцам
Ты моўчкі стаіш ля камля.
Глыбока,
        ажно да дзяцінства
Адтаяла сёння зямля.

## ГОСЦІ

Час прытомы і аском,
Час надвечаровы.
Адчыняйся бальшаком
Для гасцей, дуброва.

Пераспела неба скрозь,
Вісне на падпорах.
Зацягнуўся пушчай лось:
Пахне мох — не порах.

Пасланцы брыдуць з ракі.
Ціішыня густая.
У клубку маладзікі
Хлёстка б'юць хвастамі.

У вядры пайшло скакаць —
Стала юшцы цесна.
Час і птушку выпускаць,
Што завецца песняй.

Гасцяваць дык гасцяваць!
Іскры — да аблокаў!
Дык пра што нам заспяваць?
Эх-х, пра Налібокі!..

## ГАНЧАРНЫ КРУГ

*С. Адамовічу*

Ледзь гляне дзень,
і стане бачным шлях,
Па крузе іх пайшла кружыць
зямля.
Падміргвае і круціць вус зямляк:
— Круці, сынок,
пасля пазнаеш смак.
Круг птушанём спявае:
«Ціў» ды «ціў».
— Арбіта наша,
вось яна, глядзі!
Мо станеш лётчыкам,
ці касманаўтам, ці...
Ты з гэтае арбіты паляціш.
Не бойся гліны —
мяккая яна,
Сама яна хапаецца за нас.
У мастакоў, сынок,
усё не так,
За гліну сам хапаецца мастак.
Гляджу на рукі —
і святлее твар.
Ці гліна на руках,
ці то загар?

А круг спявае птушанём:
«Ціў-ціў!»
Круціць!
Да поту сёмага круціць!
Кручуся сам,
як той ганчарны круг.
А ты, паэзія, хіба не рух?!

## ЗАСТОЛЛЕ Ў ГАРАХ

Сыну лясной і азёрнай зямлі,
Што праспяваць мне пра горы?
Келіх
Каўказ да краёчкаў наліў.
Пі! — гаспадар у гуморы.
Горы, як бурка ў цябе за спіной,
Мора паслана пад ногі.
З неба знялі маладзік,
і віном
Хтосьці напоўніў
двухрогі.
— Ну, дык спявай,—
з госця слова ўзялі,—
Госць нам,
хто песню падорыць.
Сыну лясной і азёрнай зямлі,
Што праспяваць мне пра горы?
Я заспяваў ім пра пушчы свае,
Я заспяваў ім пра рэкі,
Так, як пастух наш пушчанскі пяе,
Будзячы ранняе рэха.
Рэха абвалам каціліся з гор,
Рэха мой спеў паўтарала.
— Вып'ем,— крычалі яны,— за яго —

Гэтак пра горы удала!
Не зразумелі, я шкадаваў.
Тут мне яны і сказалі:
— Ты, генацвале,
пра дружбу спяваў.
— Дружба — гара, генацвале!
Гэтак і ёсць яно ў нашым жыцці.
Я зразумеў не адразу:
Кінеш усмешку —
усмешка ляціць
Маладзіком да Каўказа.
Гэтак і ёсць яно ў нашым жыцці —
Сам я пацвердзіць бяруся:
Кінеш папаху —
папаха ляціць
На галаву беларуса.
Келіхі мы да Каўказа ўзнялі
І усміхнуліся зорам.
Сыну ляснoй і азёрнай зямлі
Лёгка пяецца пра горы.

* * *

Ледзь толькі дзень завінецца
На вечаровы згавор,
Ўсё мне здаецца, здаецца,
Нехта спускаецца з гор.

Сцежку намацвае кульбай,
Люлькай метровай дыміць.
Дыхае цяжка і курыць,
Горы варушыць грудзьмі.

Лета мінае і восень,
Ночку змяняе дзень,
Сёмы дзесятак і восьмы,
Ён усё йдзе ды ідзе.

Мала жыцця, як прызнацца,
Ледзьве хапае яго
Ў горы у тыя узняцца,
Потым вярнуцца з тых гор.

Хай бы сышоў сваім крокам,
Даць бы яму два жыцці.
Так узабраўся высока —
Мала жыцця, каб сысці.

## ГАГРА

Я — ў Гагры.
Гарадок-падкова,
Што мора з краю падкаваў,
Яшчэ прытулак засцянковы
Для «дзікуноў» ахвяраваў.
І хто [illegible] бадзяг не быў шчаслівы
На той падкове залатой?!
Калі і быў тут сіратой,
Дык толькі муж, бядак раўнівы.
Я жыў святочна, як у казцы,
Ля гэтай пальмавай красы.
Штодня у мудрага каўказца
Цвілі падковаю вусы.
І ў моры Чорным
кожны камень
Прасвечан быў да яснаты.
Аблокі па гарах блукалі,
Нібы авечыя гурты.
Звінелі ліўні, як падковы,
У дрэмны час,
па вечарах.
Гарачым,
ракатлівым словам
Гром перакатваўся ў гарах.

Уранку зноў — як выбух, краскі,
Хвастоў паўлінавых кусты.
Пасуцца на хрыбце Каўказскім
Аблок авечыя гурты.
Другой дарогаю запрошаны,
З твайго я выраю лячу
І слова «Гагра», як гарошыну,
У горле весела качу.

* * *

Жыць і думаць толькі па-сялянску,
Іншых мне не абяцана дум.
З хваткай недакучлівай,
пушчанскай
Я штодня на пошукі іду.
Не шукаю клад залатаносны.
Ён не для маіх сялянскіх рук.
А шукаю тое,
незайздроснае,
Што зайздросных рукі не бяруць:
Смех,
адчай
і позірк выпадковы,
Грыб, што нехта не схацеў падняць,
Слова земляковага падкову,
Каб радок свой сціплы падкаваць.
Можа, адшуканае загіне,
Як загінуў гэты гай стары.
Паўтаруся ў дочцы альбо сыне,
Толькі б чыйсьці верш не паўтарыць.

## ПРА ХЛЕБ

Гасудар мой, бацюшка хлеб...
*З вясельнай песні*

— Спачатку ніве пакланіся ў пояс.
Тут лёс мой жытні,
сны мае ляжаць.
І пацалуй гарачы гэты колас.
Ад жыта можна і ў жыццё ступаць.

Сынок,
магчыма, выб'ешся у людзі,
Глядзі ж ты,
каб не выбіўся з людзей.
Хай родны хлеб табе сумленнем будзе,
Ён, родны хлеб,
нідзе не падвядзе...

Ледзь не заплакаў хлебароб патомны —
Ах, не ўтрымаў каля зямлі сыноў.
Схапіўшы чамаданчык дапатопны,
Сам хлеб мяне да станцыі павёў.

І думаў я ў дарозе,
доўга думаў
Пра лёс людзей,
прыросшых да зямлі.
Сялянскай польнай працы каралі,

Яны каронай хлеб сабе ўзялі.
І хай сабе балбоча нейкі дурань,
Што медалі іх —
                    толькі мазалі.
У одах іх праславіў люд сталічны,
А мы усе —
                адзін працоўны люд.
Пагляд вачэй іх,
                    сіне-навальнічны,
Не дасць і мне забыцца пра зямлю.

Сябе не берaглі.
                    Не з беражоных.
Бывала, гора чэрпалі каўшом.
Далоні іх шурпатыя,
                        як жорны,
Каменне расціралі ў парашок.

Я узнімаю тост за вашу працу,
Дзяржавы хлебасольныя сыны.
Калосіцца палетак збажыны,
Як круглы стол сялянскай вашай
                                праўды.

Глядзіце, што стварылі вашы рукі,
Як сонца бохан на стале ляжыць.
Ён выпечан з мукі
                        і з вашых мукаў.
Штодзённы,
            ён будзённым мусіць быць.

Ну вось ён, прынямонскай нашай пробы.
Скарынку густа зрэзалі рубцы.
Вы пачакайце, хлебаспажыўцы,
Акраец першы дайце хлебаробу!

## СУСТРЭЧА

> Мы праходзілі гэтымі шляхамі...
>
> *Ю. Збанацкі*

Аслеплых рос халоднае святло,
Падковамі на шчасце шлях падбіты.
— Якое, хлопцы, гора тут расло!
Якое тут калосіць сёння жыта!

Шчакой да абеліска ён прыпаў
І плачам зліўся з весняю зямлёю.
— Валодзя, друг,
не здаў ты вышыні [1],
І сам ты стаў навечна вышынёю.

Гулі за лесам недзе трактары,
Пілі ласі з крынічнага карытца.
Стаяў, з магілай гаварыў стары,
І ўсё не мог ніяк нагаварыцца.

---

[1] Вышыня, абараняючы якую, загінуў Герой Савецкага Саюза ўкраінец Ул. Р. Калеснік

## ДАРОГА НА РЭЧЫЦУ

Гармоніку горача рэжацца,
Аж робіць аўтобус прыскок.
Вядзе нас да самае Рэчыцы
Бусліны вясновы эскорт.
Развітвацца рана і крыўдна.
І столькі вясны у вачах.
Здаецца, буслiныя крылы
Ляжаць у цябе на плячах.
Танцуюць блакіту фіранкі,
Буслямі ірвуцца з акна,
І песні тае, развітанкі,
Ніяк не выходзіць у нас.
Чаго ты маўчыш, украінка?
Пазней будзе розвітаў час.
Гарэзная бэзу галінка
Ў тваіх расцвітае вачах.
І шчасце ў дарогу нам будзе,
Адкрый толькі вочы, адкрый.
Дажджом на дарогу прыблудзяць
Аблокі бусліныя крыл.
Так дыхае чыстым, смалістым,
Заходзіцца ў песні прасцяг.
І свет непаўторны і чысты,
Наіўны зусім, як дзіця.

Лірычная скрозь неспадзеўка:
То дрэвы, то песні, то гром.
І гэта шаша, як прыпеўка,
Да песні, што дружбай завём.

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ Ў ХОЙНІКАХ

Гасне дзень, нібы прыпек,
гарачы,
І,
гайдаючы рэха рукой,
Кліча вершам гартанным ва Ўшачы
Барадулін
палешукоў.
Зала ўражана, слухае зала.
Слова матчына, сэрцы сваяч!
Быццам шлях той
рука паказала,
Шлях ад Хойнікаў да Ушач.
Сціхлі далечы,
сціхлі Хойнікі,
У гасцях у паэзіі ўсе.
Толькі чутна:
варушыць хвойнікі
Першы ранні грыбны самасей.
Слова,
з хваткай сялянскай заручанае,
У свой гай адгукне маладзіц.
А ўжо вершы пад сэрцам варушацца.
Нарадзі іх, паэт,
нарадзі!

Нарадзі іх, з дыханнем гарачым,
Як Палессе, лясных і зямных.
...Хоць спявалі яны пра Ушачы,
Разумелі у Хойніках іх.

7 Зак. 1442

## ЛОЕЎ

Ляжыць туман,
                як згустак лою,
Пад цёплай месячнай дугой.
На карце адзначаем:
                «Лоеў!»
І ў сэрца ўпісваем яго.

Ну вось ён, малады, маёвы
І стромы бераг,
                па якім
Цячэ карэнне ручаёва
Да распагоджанай ракі.

А птушкі у кустовых ветразях —
Не чуў я птушак весялей.
І недзе там, на братнім беразе,
Пяе ўкраінскі салавей.

На гэтым —
                наш аж заліваецца,
Пяе, нястомнік,— будзь здароў!
І наша песня
                з той зліваецца,
Як Сож зліваецца з Дняпром.

Гамоняць вёслы і маторы,
Цвітуць размашыста лугі.
Без перакладчыкаў гавораць
Два пабрацімы-берагі.

## ТУРАЎСКІ ПАРОМ

А не можа ён, бераг, без берага,
Хвост даўжэе
машыннай чаргі.
Зараз правы пад'едзе
да левага,
Зараз злучацца два берагі.
Паварожаць дзяўчатам цыганкі,
Развітальную хтось запяе.
Левы бераг закурыць цыгарку,
Правы бераг дакурыць яе.
Ён па Прыпяці
глуха парыпвае,
Закалыхвае ранішні люд.
У паромшчыка служба не крыўдная —
Тут і людна і песенна тут,
Перасыпана слоўнай парошаю,—
І вясковаю,
і гарадской.
Ну, а гэтыя —
глянь, паромшчык! —
Заліхвацка пусціліся ў скок.

«Ну хутчэй ты рыпайся,
Ацірай бакі.

Колькі тае Прыпяці,
Прыпяці-ракі.
Можна яе выпіці,
Можна ў два глыткі.
Колькі тае Прыпяці,
Прыпяці ракі».

«Гэта што за песня? —
Хтосьці супыніў.—
Пі,
  браток,
        хоць трэсні —
Векавы разліў!

Часам напрадвесні,
Ды каб ты, брат, жыў,
Прэ ажно да весніц —
Вось які разліў!»

Эй, паромшчык,
              ну што ж ты, паромшчык?!
Ты да хвалі душою прырос.
Што ж ты едзеш зусім парожнім,
Ты б вяселле, ці што, прывёз.

Дзед жартуе,
              чаргу гуртуе:
«Прывязём усяго пакрысе.
Хто там гэтак ірвецца ў Тураў?
Гэта ж з Турава рвуцца ўсе».

Паміж словамі, паміж справамі
Ён снуе ад чаргі да чаргі.
Вось і левы пад'ехаў да правага,
Прывіталіся два берагі.

* * *

На Палессе лячу,
на Палессе!
Вось ён той, векавы блакіт.
Так зайграла на струнах
балесна,
Аж прысеў халадок ля ракіт.
Перасеклі каналаў маланкі
Далеч ясную, як акно.
І стагі твае,
і буслянкі
Спадарожна ішлі за мной.
Захліснула лясным адчайна,
У вачах паплавы паплылі.
Я таксама — лесавічанін,
І лясное мне ўсё баліць:
Гэты бор — паляшук барадаты,
Разгуканы ласінай трубой,
Гэты позірк вачэй дзікаваты,
Гэтых траў малады разбой;
Гэта рэха берасцяное,
Перазовы срабрыстыя рэк,
Гэта роднае і лясное,
З жытнім злучанае навек.

## БЕЖАНЦЫ

### (Успамін знаёмага)

Выбухі.
        Попел.
                Спякоты цалік.
Месяц пракляты бежань...
Вось зараз задзірлівы «юнкерса» зык
Зямлю напалам перарэжа.
Агонь затуліў нашы хаты
                        сцяной.
Зямля — як гарачы прысак.
Мы засталіся з надзеяй
                        адной,—
Без хлеба,
        без хат,
                без калысак.
Гэтак смаліла — ого!
Такое сцярпець чалавеку!..
Ад успамінаў
            праз многа год
Павысыхалі рэкі.

## ШЧАСЦЕЙКА

Ў чэраве прачнулася, што спала,
Таўханула ножкаю:
«Жыву!»
— Ах, калі такое ты,—
сказала,—
Шчасцейкам цябе я назаву.

Сонца на ўзыходзе часам гасне.
Страшны крык планету скалане...
Прыплыло ў пакеце сінім шчасце,
А матуля адплыла ў труне.

Тоне свет у прамянёвым бляску,
Так яно, адчайнае,
гарыць.
Сіратліва коціцца каляска
Па глухім бабуліным двары.

Да бабулі хіліцца шчакою,
У бабулі слёзы наплывуць:
«...Калі ты няшчаснае такое,
Што ж цябе я шчасцейкам заву?..»

## Я З ПУШЧЫ...

Я з пушчы прыйшоў,
пушчанец,
Ад сосен сваіх, ад бяроз.
Прынёс за спіною не ранец,
А ранак сунічны прынёс.
Паветра мядовасці весняй
Агучыў сасновай струной.
Усё тут, ад хлеба да песні,
Ад вечнае пушчы са мной.
Дрымотна зімою у пушчы.
Чакаеш з відна да відна,
Як з лёдавага скалярушча
Праклюнецца зябка вясна.
Тады лугавінаю боса
Трава пабяжыць за табой.
Тады ўжо нічога не бойся,
Нават зязюлі скупой.
А каб зразумець канчаткова
Пушчанскую нашу душу,
З той казкі зялёнай
вясновай
У лета я восень прашу:
Багатай парой прадзімнаю
І сейбіты, і вазакі

У кірмашовым прэзідыуме
Сядзяць сабе, як казакі.
У кошыках,
кадзях,
вязанках
Пушчанскія млеюць дары.
Вясёла, каліна-пушчанка,
Цыганскай зарою гары!
Я з пушчы прыйшоў,
пушчанец,
Ад сосен сваіх і бяроз,
Прынёс за спіною не ранец,
А ранак сунічны прынёс.
Мой ранак заўсёды са мною,
У горадзе я не ў гасцях.
Крыляе, шуміць за спіною
Зялёная пушча,
як сцяг.

## ЗМЕСТ

Казимир Викентьевич Камейша

В КРУГУ ДРУЗЕЙ

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак С. У. Саркісаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Паркова. Карэктар Л. С. Мануленка.
ІБ № 346
Здадзена ў набор 25.07.78. Падп. да друку 11.11.78. АТ 09888. Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайна новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 3,5. Ул.-выд. арк. 2,89. Тыраж 5000 экз. Зак. 1442. Цана 30 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Камейша К.**

К 18 Сябрына: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1978.— 112 с.

Новая кніга лірыкі К. Камейшы — гэта кніга дарог. Адны з іх вядуць у братнюю Літву, другія — да падножжа Каўказа, трэція — у сонечны Крым. А самыя дарагія шляхі-пуцявіны скрыжаваліся на роднай беларускай зямлі, у блізкім сэрцу паэта краі — пушчанскай Налібоччыне.

К $\frac{70403-214}{М 302(05)-78}$ 49—79 Бел 2

